 

# СВАРКІ Ў „ЗАХОДНЯЙ СЯМЕЙЦЫ"

У мінулую нядзелю я шукаў на старонках розных заходніх газет артыкулаў і звестак, адлюстроўваючых узаемныя нападкі паміж дзяржавамі звязанымі афіцыйнымі саюзамі, пактамі дружбы і салідарнасці.

Не можа быць салідарнасці там, дзе разыходзяцца інтарэсы розных капіталаў. А вось прыклады, пачэрпнутыя з выказванняў заходніх журналістаў, якія сочаць за гэтым сужыццём паміж «саюзнікамі».

Спярша аб непаладках паміж Францыяй і Бразіліяй. Гэтыя дзяржавы не могуць паразумецца па пытанні, ці лангусты поўзаюць ці плаваюць уздоўж паўднёва-атлантычнага ўзбярэжжа Бразіліі? Францыя і Бразілія апынуліся амаль перад тварам вайсковага канфлікту. Друк параўноўвае гэтую гісторыю з вайною за... вуха Енкінса. Чытачам, якія не арыентуюцца ў чым тут справа, скажу, што ў 1739 годзе Вялікабрытанія выступіла супроць Іспаніі, тлумачачы гэты свой ваенны крок абрэзаннем іспанцамі вуха англійскаму матросу Енкінсу. Хаця зараз нічога падобнага не сталася, аднак паміж французамі і бразілійцамі наступіў жывы абмен лаянкай.

Нядаўна Францыя і Федэратыўная Рэспубліка Германіі падпісалі сяброўскае пагадненне, аб якім здаецца даўно ўжо марылі Парыж і Бон. Тым часам Вашынгтон і Лондан робяць усё, каб толькі зламаць гэтае «крохкае», як гавораць, паразуменне. У амерыканскім друку я знайшоў наступны сказ: «Германія згадзілася на спецыяльныя адносіны з Францыяй, адзінай саюзнай дзяржавай, якая фармальна прызнае польска-нямецкую граніцу і адмаўляе большага вайсковага ўкладу на карысць праектаванай стратэгіі НАТО, мэтай якой з'яўляецца абарона ФРГ. Даволі парадаксальна выглядае ўся справа, калі толькі гэтага хапае, каб ашчаслівіць нямецкі ўрад». Гэта правільная думка, калі ўлічым, што цэлая стратэгія Заходняй Германіі накіравана на вайсковае ўзмацненне НАТО дзеля таго, каб «вярнуць страчаныя на ўсходзе землі». Таму хіба справядліва заходнія саюзнікі ФРГ не бачаюць доўгай будучыні яе пакту з Францыяй, якая не мае ніякіх палітычных інтарэсаў за Одрай і Нысай і прызнае гэтую граніцу.

Брытанцы смяюцца ў сваю чаргу з вялікадзяржаўных пачынанняў прэзідэнта Францыі дэ Голя, хаця самі пры іншай аказіі дамагаюцца для сябе ўласнай нацыянальнай нуклеарнай сілы. У такіх умовах Злучаныя Штаты не могуць вырашыць, каму варта даць больш атамных бомб і ракет: ці актуальным саюзнікам — брытанцам, ці тым, якія аказваюць незалежнасць, а менавіта французам? А можа гэтых апошніх, — думаюць у Вашынгтоне, — удасца падкупіць? Такія разважанні амерыканцаў яшчэ больш псуюць атмасферу паміж Лонданам і Парыжам. Дайшло нават да таго, што брытанцы адклікалі маючы наступіць візіт княгіні Маргарыты ў Францыю, хаця і не спадзяваліся, што гэтая паездка прынясе нейкія палітычныя эфекты.

Да групы прыгаданых канфліктаў трэба таксама залічыць інтарэсы саюзнікаў, стаячых фармальна на баку, напрыклад, Італіі. Афіцыйна італьянскі ўрад падтрымоўвае кандыдатуру Вялікабрытаніі ў склад Супольнага Рынку. Аднак італьянскія капіталісты (яны маюць у краіне значныя ўплывы) выступаюць супроць гэтай кандыдатуры. Яны могуць дабіцца большых даходаў у малой Еўропе, чым тады, калі ў яе склад уступіць Вялікабрытанія са сваёй развітай прамысловасцю. Тым часам у ФРГ погляды на гэтыя пытанні зусім супроцьлеглыя. Бонскі ўрад, каб толькі не пашкодзіць дэ Голю, не ангажуецца залішне, каб падтрымаць Англію. Аднак заходненямецкія капіталісты не ўяўляюць сабе Супольнага Рынку без брытанскай садружнасці, якой маглі б прадаваць свае тавары.

Так вось вырысоўваецца карціна адносін у заходнім свеце на падставе, прынамсі, некаторых толькі, газет за мінулую нядзелю.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

# САМАЯ МАЛАДАЯ Ў СЯМ'І СЛАВЯНСКІХ ЛІТАРАТУР

**Доктар ЮРЫЙ МЛЫНК-МЕЛЕР,**
**навуковы супрацоўнік інстытута лужыцкага сербазнаўства Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі.**

Лужычане з'яўляюцца нацыянальнай меншасцю ў ГДР і жывуць у Лаўзітцэ, маляўнічай мясцовасці на паўднёвым усходзе нашай рэспублікі. Пасля векавога прыгнечання яны ўпершыню атрымалі поўнае раўнапраўе ў першай нямецкай дзяржаве рабочых і сялян. У час працяглага панавання класа эксплуататараў літаратура лужыцкіх сербаў умацоўвала іх волю да жыцця. Першыя лужыцкія літаратурныя помнікі адносяцца да апошняй трэці XV і першай палавіны XVI стагоддзяў. У 1574 годзе ў Баутцэне выйшла першая друкаваная кніга на роднай мове лужычан, малітоўнік з катэхізісам Лютэра. У 1679 годзе ў Празе выйшла першая верхнелужыцкая граматыка Цічына.

Асобныя заслугі ў развіцці лужыцкай літаратуры мела сям'я свяшчэнніка Фрэнкеля. Міха Фрэнкель перадаў у 1697 годзе свае кнігі рускаму цару Пятру Вялікаму і ў прыкладзенай да іх грамаце пісаў аб прыналежнасці лужыцкай мовы да вялікай сям'і славянскіх моваў. Фрэнкель мае таксама заслугі ў стварэнні лужыцкай паэзіі, якая пачала развівацца ў гэты час побач з фальклорам.

Развіццю лужыцкай нацыянальнай літаратуры ў першай палавіне XVIII стагоддзя садзейнічала стварэнне зямляцтваў лужыцкіх студэнтаў ва універсітэтах Прагі, Лейпцыга і Вітэнберга. Тут маладыя лужычане практыкаваліся ў літаратуры, арартарстве, паэзіі і публіцыстыцы. З лейпцыгскага аб'яднання «Сарабія» выйшаў выдатны паэт XVIII стагоддзя Юрый Мен, які выступаў супраць паклёпніцкіх выдумак нямецкіх феадалаў, што лічылі лужыцкую мову «мовай рабоў» і адмаўлялі яе здольнасць да выказвання высокіх думак.

Рэвалюцыйны рух еўрапейскай буржуазіі 30—40-х гадоў, як і славянская рамантыка, зрабіў вялікі ўплыў на літаратуру лужыцкага адраджэння. Паэт Хандрый Цэйлер (1804—1872 гг.) стаў заснавальнікам сучаснай лужыцкай нацыянальнай літаратуры. З выдаваемага ім штотыднёвіка ўзнікла штодзённая газета «Сербскія навіны», якая праіснавала да сярэдзіны 1937 года і была затым ліквідавана нямецкімі фашыстамі разам з усімі іншымі лужыцкімі культурнымі аб'яднаннямі.

У канцы XIX стагоддзя з'явілася новае паэтычнае пакаленне, якое выступіла з выказваннем палітычнага пратэсту супраць буржуазнага шавінізму вільгельмаўскай Германіі.

Якуб Барт-Цызінскі (1856—1909 гг.), выдатны лужыцкі паэт мінулага, узначаліў младалужыцкую паэтычную школу. Яго праца, якая налічвае больш 15 томаў, поўная палымянага патрыятызму і страснага пратэсту супраць нацыянальнага зняволення свайго народа.

Лужыцкая літаратура мінулага магла развівацца выключна ў малых жанрах, як у апавяданні і навеле, лірыцы і баладзе для часопісаў і календароў.

Карэнны паварот наступіў пасля разгрому фашызму.

Новая літаратура мае шырокую тэматыку, якая ахоплівае развіццё новых грамадскіх адносін на агульнай радзіме немцаў і лужычан. Такой з'яўляецца драматычная хроніка «Матухна Янч» Юрыя Брэзана, упершыню пастаўленай у лужыцкім народным тэатры.

Лужыцкая літаратура развіваецца сёння таксама і ў манументальных эпічных жанрах. Тут побач з раманамі Брэзана («Гімназіст», «Семестр страчанага часу») трэба назваць хроніку «Ян» першых пасляваенных гадоў пісьменніка К. Крыенса, аўтабіяграфію «Мы з чырвонай гваздзікай» К. Янака, а таксама раман аб сучаснай лужыцкай вёсцы «Двор без батракоў» Б. Соты. Часта сустракаецца тэма салідарнасці лужычан з рабочымі, прымусова вывезенымі з усходу ў час гітлераўскага панавання. Адначасова падрастае і маладое пакаленне лужыцкіх пісьменнікаў: І. Краўца ў сваёй кнізе «Блакітныя пісьмы» спыняецца на школьных праблемах у інтэрнаце адной лужыцкай сярэдняй школы, А. Наўка ў сатырычнай форме піша пра фашысцкі лагер вае-

**(Працяг на стар. 5)**

# Хроніка БГКТ

■ Праўленне Беластоцкага павятовага аддзела БГКТ у Міхалове пастанавіла склікаць справаздаўча-выбарчую канферэнцыю на 24 красавіка.

■ Гурток БГКТ у Пяньках на апошнім сваім сходзе выбраў дэлегатаў на справаздаўча - выбарчую канферэнцыю павятовага аддзела.

■ У сувязі з 20 гадавінай Саюза маладых барацьбітоў (ЗВМ) гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку 14 сакавіка ў тэкстыльным прадпрыемстве ў Фастах для членаў БГКТ і моладзі арганізаваў спатканне з былым дзеячом ЗВМ Віктарам Цыунчыкам. На заканчэнне вечарыны быў высветлены савецкі фільм «У абароне Волгі».

■ На справаздаўча - выбарчым сходзе ў Піражках, які падсумаваў вынікі дзейнасці гуртка і накрэсліў план працы на 1963 год, было выбрана новае праўленне, якое ўзначаліў Аляксандр Алекша. Сход прыняў у свае рады пяць новых членаў, выбраў дэлегатаў на павятовую канферэнцыю ў Саколку і пастанавіў арганізаваць экскурсію ў Варшаву. Адначасова сход паслужыў аказіяй утварэння курсу сельскагаспадарчай падрыхтоўкі (ПР), на які запісалася 8 чалавек.

■ Гурток БГКТ у Дабрыводзе выбраў новае праўленне і дэлегата на павятовую канферэнцыю ў Гайнаўцы. Удзельнікі сходу пастанавілі давесці да парадку вясковую святліцу і ўрэгуляваць членскія складчыны да канца красавіка.

■ У справаздаўча - выбарчым сходзе гуртка БГКТ у Старым Корніне узяў удзел старшыня павятовага аддзела БГКТ у Гайнаўцы Васіль Дзун, які выступіў з дакладам аб заданнях таварыства. На сходзе было выбрана новае праўленне гуртка на чале з Міхасём Лаўрыновічам, а таксама былі выбраны дэлегаты на павятовую канферэнцыю БГКТ. У рады таварыства было прынята 11 новых членаў.

■ У гуртках БГКТ на Гайнаўшчыне ў вёсках Макаўка, Крывец, Койлы, Курашава, Ласінка, Старабеpазова, Арэшкава, Вітава, Барысаўка і Махнатае адбыліся нядаўна справаздаўча-выбарчыя сходы, на якіх былі падсумаваны дагэтуляшнія вынікі дзейнасці і накрэслены планы працы на 1963 год, а таксама былі выбраны новыя праўленні гурткоў.

# Спорт

У спорце тэмпература скочыла высока. Колькі хваляванняў прынёс толькі апошні дзень чэмпіянату свету па хакею. Здавалася, ужо ніхто не адбярэ ў шведаў званне чэмпіёна і раптам у апошні дзень прайгралі яны чэхаславакам. Адкрылася дарога да першага месца савецкай камандзе. Але, каб прайсці яе, савецкія хакеісты павінны былі перамагчы канадцаў, і то з перавагай у дзве шайбы. Надзвычай драматычна склаўся савецка-канадскі паядынак. Вялі высока (4:0) савецкія хакеісты і раптам у апошнюю мінуту сустрэчы канадцы забілі дзве шайбы. Мала бракавала да новай сенсацыі. Аднак разрыў у дзве шайбы астаўся і савецкая каманда святкавала перамогу.

Не менш хваляваліся нашы аматары боксу. У мінулую нядзелю ў Лодзі адбылася другая сустрэча паміж польскімі і румынскімі баксёрамі ў чэмпіянаце Еўропы. Першую, як вядома, выйгралі 14:6 румыны і, каб трапіць у паўфінал, нашыя майстры скуранай рукавіцы павінны былі выйграць яшчэ з вышэйшым лікам. У такую магчымасць мала хто верыў, але ў спорце ўсё магчыма. Рэванш поўнасцю ўдаўся, наша каманда выйграла 16:4.

Таксама парадавалі беластоцкія баксёры. У першай сустрэчы за права гульняў у II лізе беластоцкая «Гвардыя» выйграла ў Ольштыне з мясцовай «Варміяй» 11:9, а беластоцкія юніёры ў чарговым матчы на кубак ГККФіТ узялі далейшую перашкоду, абгуляўшы ў сябе гданьскіх баксёраў 14:8.

Урэшце пачаўся вялікі футбол. Выстартавала да вясенняга круга I і II ліга. Першыя гульні не прынеслі неспадзянак, і турнірную табліцу па-ранейшаму ўзначальваюць у I лізе — Гурнік Забжэ, у другой — Шамберкі.

Савецкія футбалісты ўсё яшчэ на поўдні. Праводзяць далей кантрольныя гульні. Тут паспяхова выступае беларускае «Дынама». Выйграла яно з грузінскімі аднаклубнікамі 3:1. Нядрэнна.

**Аут**

# ТАЙНА ЭЛЬБЫ

АЛЯКСАНДАР НАСІБАЎ

ПЕРАКЛАД: Хведара Асіёнка

Лізель вярнулася з пахавання мужа зусім разбітая. Суседка, трымаючы яе пад руку, давяла да хаты, пасадзіла, дала шклянку вады. Потым яна пайшла.

Пазванілі. Лізель адчыніла. На парозе стаялі штурмбанфюрэр Бруна Бекер і забінтаваны штурмфюрэр Адольф Торп. За імі маячыў салдат з вялікім пакетам.

— Фраў Ланге, — сказаў Бекер, — нас прыслаў сюды ваенны камендант Остбурга. Ён спачувае з выпадку заўчаснай смерці обер-яфрэйтара Герберта Ланге. Салдат Ланге быў прыкладным воінам, добра выконваў свой доўг перад фюрэрам і нацыяй, і цяпер вермахт схіляе сцягі над яго прахам.

Сказаўшы гэту тыраду, Бекер пакланіўся. За начальнікам пакланіліся Торп і салдат.

Вайсковыя ўвайшлі ў хату. Яны размясціліся ў



гасцінай паўкругам — Лізель у цэнтры, Бекер і Торп па баках. Салдат палажыў скрутак на стол і выйшаў у калідор.

Грукнулі дзверы. Гэта прыйшла суседка, старая фраў Штрэйбер. Яна села побач гаспадыні.

Запанавала маўчанне. Бекер спыніў яго. Ён, быццам звяртаючыся да спадарожніка, сказаў:

— А гэтага магло і не быць.

— Што зробіш, такі, значыць, лёс, — засупярэчыў Торп.

— Лёс! — Бекер горка ўсміхнуўся. — Лёс тут ні пры чым. — Пальцы яго папаўзлі да скрутка на стале. — Фраў Ланге, прыміце гэты невялікі знак увагі ваеннага каменданта. Тут крыху кансерваванага малака, а таксама масла, цукар і павідла. Дачцы і вам гэта спатрэбіцца.

Жанчына ледзь схіліла галаву і зноў застыла.

Звяртаючыся да Бекера, Торп сказаў:

— Вы гаворыце, што лёс тут ні пры чым? Але я не разумею вас. Гэта ж быў толькі няшчасны выпадак. Нечакана выскачыў з-за вугла грузавік і...

— Грузавік! — Бекер сярдзіта сціснуў губы. — Калі б капралу, які прыбыў разам з мужам фраў Лізель з фронта, не захацелася б раптам гарэлкі, пан Ланге быў бы цяпер жывы і здаровы.

— Дык Ланге бегаў за выпіўкай для госця! — ускрыкнула фраў Штрэйбер.

— Зразумела, — сказаў Бекер. — Гэты хлапец непапраўны п'яніца. Алкаголік.

— О! — ускрыкнуў Торп.



— Я чула, у іх бываюць запоі, — сказала фраў Штрэйбер.

— Менавіта гэта з ім і здарылася, — кінуў Бекер. — Вы вельмі трапна акрэслілі, фраў.

— І што ж было далей? — задаў новае пытанне Торп.

— Далей? — Бекер памаўчаў. — Далей было вось што. Калі Ланге адправіўся на рынак, капрал выбег за ім, аклікнуў. Ланге якраз пераходзіў вуліцу. Ён абярнуўся. Госць пачаў прасіць, каб той узяў пабольш гарэлкі. Тут-та і выскачыў з-за вугла грузавік!..

Зноў наступіла маўчанне.

Бекер працягваў:

— Але і гэта не ўсё. Ведаеце, што зрабіў гэты чалавек, калі пад коламі пяцітонкі хруснулі косці яго франтавога таварыша? Вы думаеце, затрымаў нейкі аўтамабіль і адвёз пана Ланге ў бальніцу? Куды там. Ён пабег у хату, выцягнуў усё самае каштоўнае са свайго чамадана, потым з чамадана Ланге і лаві яго.

Пры гэтых словах Лізель скочыла на ногі. У вачах яе быў жах. Падтрымліваемая суседкай, яна прайшла ў спальню, дзе былі чамаданы. Бекер спакойна глядзеў ёй услед. Пакуль хавалі Ланге, контрразведка папрацавала ў хаце нябожчыка, і штурмбанфюрэр ведаў, што гаспадыня знойдзе чамаданы пустымі.

Раздаўся кароткі жаночы крык. Бекер і Торп здзівіліся — ён данёсся не са спальні, дзе яны ведалі, знаходзіліся чамаданы, а з кухні.





 

# НАРОДНАЯ ВЫТВОРЧАСЦЬ

Народнай вытворчасцю займаецца на Беласточчыне аб'яднанне саматужных народных вытворцаў. Прадукцыя народных вытворцаў ідзе ў некалькіх напрамках: вырабы з саломы, кераміка, ткацтва, памяткарства і разьба. Вырабы саматужнікаў вельмі папулярныя не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі: у Бельгіі, Даніі, Швецыі, Швейцарыі, Чэхаславакіі, Германіі. Экспарт народных вырабаў пашыраецца. Калі ў 1960 годзе аб'яднанне народных саматужных вытворцаў у Беластоку скупіла гэтых тавараў на 3 мільёны зл., дык ужо ў 1962 годзе — на 8 млн. зл. На 1963 год, паводле плану, скупіцца вырабаў народнай вытворчасці на 10 млн зл. Найбольшым попытам з гэтай галіны на міжнародных рынках карыстаюцца вырабы з саломы, гэта значыць, маты і выплёты, а таксама дываны і ганчарства.

Вырабамі гаршчкоў займаюцца ў асноўным жыхары. Кляшчэль, а тканнем дываноў жыхары Янова на Сакольшчыне. Выплятаннем з саломы кашоў, талерак, каробак і гд., а таксама тканнем мат найбольш займаюцца сяляне Бельшчыны.

*

У Бельску на пункце скупу заўсёды многа людзей, якія хочуць прадаць свае вырабы. Але ўсім прадаць не ўдаецца. Некаторыя прыязджаюць з тымі самымі вырабамі па некалькі разоў, пакуль іх прададуць. А чаму не хочуць іх купіць? Справа ў тым, што падажа мат значна большая ад магчымасцей скупу. Працаўнік мае магчымасці выбару. І ў сувязі з гэтым ходзяць розныя чуткі, шэпты, што трэба мець блат у гэтага працаўніка з Беластока, тады можна прадаваць колькі хочаш. Гэтыя шэпты, гутаркі даходзяць і да павятовага камітэту партыі і да іншых улад. Але тут цяжка скантраляваць ды ніхто і не прабуе кантраляваць.

Аб'яднанне саматужных народных вытворцаў дзейнічае на аснове спулдзельні працы. Гэтая спулдзельня налічвае зараз 1500 членаў і 105 кандыдатаў. А члены спулдзельні маюць першынства ў продажу.

Найважнейшая справа ў Бельску заключаецца ў тым, што памяшканне пункта скупу там вельмі цеснае і для перахоўвання вырабаў няма належных умоў. Каб паправіць гэтую сітуацыю, аб'яднаннем народных саматужных вытворцаў у Бельску будзе пабудаваны вялікі склад яшчэ ў гэтым годзе.

У пэўным сэнсе цэнтрамі народнай вытворчасці на Бельшчыне з'яўляюцца вёскі Якубоўскае, Кошкі і Рэдуты.

— Рэдуты, — гаворыць кіраўнік аб'яднання народных саматужных вытворцаў Віктар Саўчанка, — вельмі цікавая вёска. Да чаго прыгожа там спяваюць па-беларуску. І вось у гэтай вёсцы арганізуем народны хор. Думаем, што за год часу падрыхтоўкі хор гэты можна будзе паказаць у многіх гарадах нашай краіны.

— Вы займаецеся ўсім тым, чым між іншым цікавіцца і Беларускае таварыства, — сказаў я Віктару Саўчанку. — Пажадана было б супрацоўніцтва.

— Калі ласка, мы б ахвотна супрацоўнічалі, — сказаў кіраўнік. — У гэтым няма ніякіх перашкод.

І сапраўды няма перашкод. Такое супрацоўніцтва вельмі патрэбна.

**М. ХМЯЛЕЎСКІ**

# ЗРАДЗІЛІ ІХ ЗМАГАННІ

(Працяг са стар. 1)

быў заснаваны 15 лістапада 1945 года. Крыху пазней пачынаюць дзейнічаць гурткі ЗВМ у Орлі, Гайнаўцы, Нараўцы, Нарве, Клюковічах, Кляшчэлях і ў другіх мясцовасцях цяперашняга Бельскага, Гайнаўскага і Сямяціцкага паветаў.

Саюз маладых барацьбітоў быў вялікай школай, у якой выраслі і гартаваліся кадры маладой дзяржавы. Прыклады прыводзіць можна без канца. Тадэуш Стшалкоўскі — першы сакратар Ваяводскага Праўлення ЗВМ з'яўляецца зараз сакратаром Агульнапольскага камітэта абароны міру, а Аляксандр Младзяноўскі — сакратар Ваяводскага Камітэта ПАРП пачынаў сваю дзейнасць у Кляшчэлеўскім гуртку Саюза маладых барацьбітоў.

На заканчэнне ўрачыстага мітынгу прадстаўнік Цэнтральнага Камітэта ССМ уручыў заслужаным членам Саюза маладых барацьбітоў ганаровыя адзнакі імя Янкі Красіцкага. Між іншым залатая адзнака прысвоена сакратару Ваяводскага Камітэта ПАРП тав. Аляксандру Младзяноўскаму.

(вр)

## Элементарны абавязак члена БГКТ

(Працяг са стар. 1)

Набліжаюцца справаздаўча-выбарчыя канферэнцыі аддзелаў. Набліжаецца таксама агульнапольскі з'езд БГКТ. Як канферэнцыі, так і з'езд з'яўляюцца вялікімі падзеямі ў жыцці беларускага таварыства. Гэтыя знамянальныя дні належала б усім членам БГКТ адзначыць вялікімі дасягненнямі на ніве культурна-асветнай дзейнасці. Належала б таксама не мець ніякіх задоўжанасцей па аплачванню складчын, таму што складчыны — гэта элементарны абавязак кожнага члена БГКТ.

мх.

## З Мінска

(Працяг са стар. 1)

Р. Люксембург і Арлоўскай. Цяжка пералічыць усё тое, што было зроблена ў Мінску за гэтыя гады.

І сталіца, якая аддала свае галасы за лепшых сваіх абраннікаў, верыць, што пройдзе яшчэ некалькі год і новыя працоўныя перамогі ўславяць наш родны горад, сталіцу беларускага народа.

**Яўген ЛЯХАЎ**
**супрацоўнік БДУ**
**імя У. І. Леніна**

# ХІРУРГІ МЕХАНІЗАЦЫІ

Вясна, як кажуць, не за гарамі. На палях паявіліся жаўранкі. У вёсках — шпакі. Гэта найлепшыя веставыя вясны. Сяляне рыхтуюцца ў поле. На пасяўную.

Паколькі аб будучых ураджаях у асноўным будзе вырашаць спраўнасць механізацыі ў часе палявых прац, мы нядаўна наведалі Бельскі ПОМ.

— Зімовы перыяд у нашым ПОМ, — гаворыць кіраўнік эксплуатацыі Антон Мялешка, — у асноўным быў прысвечаны рамонту сельгасмашын і адукацыі. З рамонтам ПОМ-аўскіх машын мы пакончылі ўжо ў канцы студзеня. А было гэтага нямала. І трактары, і сеялкі, і малацілкі і нафтавыя рухавікі. Некаторыя машыны патрабавалі даволі складаных рамонтаў. Але справіліся. Спецыялісты ў нас выдатныя. І па адукацыі і па практыцы. Таму, што датычыць падрыхтоўкі да вясны, магу сказаць, што наш ПОМ зацягнуты на апошні гузік.

— Ваш ПОМ праводзіць рамонты толькі ўласных машын?

— Не. Мы рамантуем машыны сельскагаспадарчых гурткоў (а іх усё больш), прадукцыйных спулдзельняў і нават сельгасмашыны паасобных гаспадароў.



**Каб электрычная інсталяцыя не псавалася, трэба яе выпрабаваць на гэтым апараце. Электраманцёр Віталіс Гольштын усе справы адносна электраінсталяцыі сельгасмашын, як кажуць, мае ў мізінным пальчыку.**

Здалёк даносіцца характэрны звон жалеза. Мы ўваходзім у прасторны з велізарнымі вокнамі будынак. Гэта рамонтны цэх. Роўнымі радамі стаяць разабраныя трактары. Сярод іх, як мурашкі, капошацца людзі. Зашмальцаваныя камбінезоны. Рукі ў мазуце. Лекары механізацыі. Вось над «сэрцам» трактара — маторам пахіліўся малады, высокага росту чалавек. Гэта галоўны «хірург» ПОМ-а, інжынер Мікалай Варона. Відаць, адбываецца тут сур'ёзная аперацыя.

— Вось людзі! Найбольш складаныя рамонты адкладаюць на апошні час, — з відавочнай неахвотай адрываецца ад працы інжынер Варона.

Восенню сельгасгурткі заявілі ў ПОМ, што хочуць рамантаваць 24 трактары. У ПОМ тэрмінова было прывезена толькі 13 трактараў. Усе яны поўнасцю адрамантаваны і адстаўлены ў сельгасгурткі. Тыя, што недатрымалі тэрміну, прывозяць трактары ў апошні час. Аказваецца, што некаторыя з іх патрабуюць складаных рамонтаў.

— Калі не паспеем на час адрамантаваць апошніх трактараў, на каго будуць нараканні? Вядома, на нас! — абураецца інжынер.



**— Цешта ў гэтым падшыпніку шарыкі вельмі пад'езджаны. Што з імі зрабіць? — пытае малады курсант Аляксандр Мацкевіч.**

**— Выменіць! — адказвае інжынер Варона.**

**Фота — Бельскі**

— А што, калі ў час веснавых прац, у полі, сапсуецца тая ці іншая машына? — пытаем.

— Калі рамонт праведзены салідна, — адказвае інжынер, — машына не павінна псавацца. Але бываюць выпадкі. І мы з гэтым лічымся. Таму сёлета на пасяўную пастанавілі стварыць тры рамонтныя, я б іх назваў, аварыйныя групы. Яны адразу на месцы, у полі, будуць праводзіць рамонты. Людзі падрыхтованы добра. Зімовы час, вальнейшы ад працы, выкарысталі на навуку, якую арганізавалі ў ПОМ. Апрача гэтага арганізуем пераязны варштат. Ён дасць магчымасць праводзіць у полі нават больш складаныя рамонты.

— Ці маглі б вы назваць некалькі асоб, якія найбольш салідна і аддана папрацавалі ў час зімовых рамонтаў?

— Увесь наш калектыў добра папрацаваў зімою. Але вы ж усіх не запішаце. Дык, калі ласка, запішыце найлепшых сярод добрых. Рамонтная брыгада Івана Белаказовіча, якая рамантавала трактары. Ну і абавязкова нашага каваля Івана Грузюка (рамонт драбнейшага сельскагаспадарчага абсталявання) і электраманцёра Віталіса Гольштына. Салідныя спецыялісты. Робяць, як па заказу.

Аб сабе інжынер Мікалай Варона, па скромнасці, не хацеў гаварыць.

Два гады таму назад ён закончыў Варшаўскую палітэхніку. Пасля магістэрскай працы яму прапанавалі пасаду ў некалькіх прадпрыемствах. Інжынер Варона не захацеў. Яго цягнула Беласточчына. Ён жа тут нарадзіўся, у вёсцы Бахуры, Беластоцкага павета. І таму веды свае вырашыў аддаць Беласточчыне, дарэчы, дзе ўсё яшчэ не найлепш з механізацыяй у сельскай гаспадарцы.

Ну, што ж, жадаем поспеху! І... каб машыны не псаваліся.

**В. БАРШЧЭЎСКІ**

---

(Працяг са стар. 3)

Торп шматзначна ўсміхнуўся.

— То-та. Запамятай: заўсёды дабіваешся большага, калі дзейнічаеш мякка. Дапытаўшы яе ў звычайным парадку, мы бы не многа даведаліся. Праўда, Торп?

— Але ўсё ж не ўстаноўлена галоўнае. Мы не ведаем, дзе хаваецца гэты чалавек.

— Затое ўсплыла гісторыя са скрынкай у вядры. Скрынка! Што ў ёй магло быць, Торп?

— Спачатку я думаў, узрыўчатка.

— Глупства. Хай была б гэта самая сільная ўзрыўчатка, яе не хапіла б, каб падняць у паветра нейкую кузню... Не, гэта не ўзрыўчатка!

— Тады зброя!

— Але якую зброю можна запакаваць у маленькую скрынку? Хіба што пісталеты або нажы. — Бекер зрабіў паўзу і закончыў: — Гэта была радыёстанцыя, Торп.

— Неабходна ўстанавіць, хто быў на кватэры нябожчыка ўчора пасля абеду, прыкладна між сёмай і восьмай.

— Не разумею?

— Вячэрняя сустрэча з тым чалавекам здарылася менавіта ў сем гадзін — і недалёка ад хаты

86

Ланге. Я адразу адчуў: ён выглядае падазрона і тут не выпадкова. Пайшоў следам і...

— Далей вядома. Дык вы думаеце, яны звязаны?

— Хто ведае? Але падумайце самі. Раптоўная смерць Ланге аўтаматычна выкрыла і яго самога і спадарожніка. Таму Краўзе маланкава пакінуў дом нябожчыка, а затым дзейнічаў так рашуча, калі пачуў, што за ім сочаць. І я пытаю: чаму гэты несумненна вопытны разведчык ідзе на такую страшную рызыку, як з'яўленне ў раёне дома Ланге? І адказваю: таму што Краўзе хацеў што б ні было вярнуць пакінутую рацыю, якую ён не здолеў вынесці раней.

— Смелая версія.

— Смелая, — згадзіўся Торп. — Смелая, але адзіная, якую можна прыняць. Калі, зразумела, у той скрынцы сапраўды быў перадатчык. Аднак я не кончыў. Краўзе сланяўся непадалёк ад хаты, а на самай справе ў хаце быў нехта з яго знаёмых. Можаце вы паручыцца, што Краўзе не папрасіў каго-небудзь схадзіць да ўдавы Ланге са спецыяльнай мэтай — дастаць тую самую скрынку?

— Не, — сказаў Бекер, — я бы за гэта не паручыўся. — Ён скасіў на субяседніка вочы. — Аднак вы не дурань, Торп.

(Працяг за тыдзень)

87



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

